Каб сабраць грошы на паўгадавую падпіску на “Народную Волю” для 600 бібліятэк, рэдакцыя запусціла на платформе Talaka.org спецыяльны дабрачынны праект. Адгукніцеся, добрыя людзі!

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 98 (4350)**

11 снежня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

## Поглумились над живыми и мертвыми

Белорусское государство защищает чувства верующих. Временами перебарщивает, конечно, но в принципе очень правильно делает. Потому что свиная голова сама по себе, в магазине, на рынке, это дело обычное. Но в мечети – это будет вызов, издевательство, плевок в лицо огромному числу людей, исповедующих ислам.

Белорусское государство защищает чувства русских, отказавшись праздновать славные победы белорусского войска над российскими князьями, чтобы русские не обиделись. На мой взгляд, это категорически неправильно. Потому что нельзя принижать свою нацию и переписывать историю ради того, чтобы у соседа было больше аргументов в поддержку концепта собственного величия. Но наше государство, видите ли, сильно уважает чувства соседей.

Белорусское государство защищает даже статую городового у здания МВД, хотя это даже не памятник конкретному человеку, а обычная городская скульптура, и там просто нечего защищать.

Но почему белорусское государство не защищает чувства людей, которые считают, что людоедская политика, внесудебные расправы, геноцид собственного народа, массовые убийства – это зло? Почему сначала кто-то получает право строить ресторан в десятке шагов от места, которое для тысяч и тысяч белорусов является пантеоном памяти, а потом с использованием этого ресторана над этими людьми начинают откровенно глумиться?

В Минске мало заведений, в которых российская съемочная группа может записать интервью?

Навалом!

Но съемочная группа программы «Предельно откровенно» телеканала «RU.TV. Беларусь» выбрала местом записи интервью с известными белорусами именно скандальный ресторан «Поедем, поедим», построенный в Куропатах.

Известные белорусы – дирижер Виктор Бабарикин, певица Анастасия Тиханович, участник детского «Евровидения» от Беларуси Даниэль Ястремский, депутат Палаты представителей Александр Богданович – от съемок не отказались. Согласились быть использованными российскими телевизионщиками, которым явно не до чувств тех людей, которые уже несколько месяцев несут вахту у ресторана, не позволяя устраивать танцы-пляски-фейерверки возле могил.

Налицо глумление над сотнями тысяч белорусов, которые наблюдают за этой ситуацией через СМИ и всем сердцем на стороне тех, кто добивается закрытия скандального питейного заведения. Потому что в Куропатах должен быть пантеон памяти жертв сталинского режима, музей репрессий. Потому что Куропаты – это место массовых расстрелов, оно должно быть местом покаяния, местом скорби. Но никак не местом, откуда «русский мир» и «дремучая вата» будут плевать в лицо тем, для кого память о невинных жертвах не пустой звук.

Бабарикин, Тиханович, Богданович не знали, куда их приглашают? Они живут в Беларуси и не в курсе, что такое Куропаты? Они так хотели попасть на российское ТВ, что не думали больше ни о чем?

Очень удобная позиция – считать себя личностью, что-то из себя представляющей, но по принципиальным вопросам включать, простите за образность, дурака.

Однако участие в таких интервью – это вопрос чести и совести. А вот их организация – это откровенная провокация.

Интервью в Куропатах для телеканала записывала ведущая и певица Юлия Александрова. Белоруска.

Вот дословные ответы Александровой на вопросы «Нашей Нивы» по поводу того, почему местом съемок был выбран именно ресторан, вокруг которого уже много месяцев кипят страсти.

**Вопрос:** – Вас не смущало, что прямо за забором ресторана находятся кресты и могилы расстреляных?

**Ответ:** – Да нет, это их дело… В Минске любой дом можно взять, и он имеет свою историю. Мы не акцентируем на этом свое внимание.

**Вопрос:** – Вы не знаете, что всё лето там продолжается противостояние?

**Ответ:** – Нет, не знала. Мне просто понравился дизайн. Вам, может, стоит у самого ресторана спрашивать.

**Вопрос:** – Вы слышали что-нибудь о Куропатах?

**Ответ:** – Нет.

**Вопрос:** – Вы живете в Минске и никогда не слышали о Куропатах?

**Ответ:** – Не слышала. Вы также можете чего-то не знать, что знаю я.

Руководству телеканала после такого интервью ведущей нужно застрелиться. Потому что сама-то она свой позор, судя по всему, даже не поймет. Но любому человеку с мозгами из этих коротких ответов об уровне ведущей понятно всё.

Впрочем, мы люди толерантные. И, конечно, понимаем, что в каждом обществе есть и дураки, и подонки, и интеллектуалы, и «вата». Но когда кто-то начинает плевать в лицо тем, для кого существуют не только материальные, но и моральные ценности, это уже совсем неправильно, совсем нехорошо.

Сколько еще государство будет наблюдать за этой ситуацией?

Что еще должно произойти, чтобы государство наконец приняло единственно верное решение – выкупить ресторан у инвесторов и перепрофилировать его под здание музея?

Ведь стычки, конфликты, суды, переломанные руки, наезды автомобилем там уже были.

В какую стадию должен перерасти конфликт, чтобы государство поняло, что так нельзя? Что нельзя плевать в лицо людям, которые защищают свои убеждения, свои ценности, свою память!!! Что никому не должно быть позволено глумиться ни над живыми, ни над мертвыми!

Какую «свиную голову» к белорусским святыням должен принести «русский мир», чтобы наше государство, наконец, опомнилось?!

КРЫМІНАЛ

## «Замініравала» плошчу Незалежнасці

На жаль, многія людзі ціха вар’яцеюць. І ствараюць праблемы для нармальных грамадзян.

Трэба ж было ўчора жанчыне 1963 года нараджэння, якая пражывае ў Заводскім раёне Мінска, “замініраваць” плошчу Незалежнасці! Яна тэрмінова была ачэплена, на ўказанае месца выбылі супрацоўнікі міліцыі і сапёрна-піратэхнічнай групы выбуховатэхнічнага цэнтра ўнутраных войскаў МУС Рэспублікі Беларусь. Ні бомб, ні мін не знайшлі. Затое ўдалося хутка выявіць асобу, якая паведаміла па тэлефоне аб замініраванні плошчы Незалежнасці.

Шкада, што да “падрыўнікоў” не даходзіць: сучасныя тэхнічныя сродкі дазваляюць выкрыць іх, як кажуць, у лічаныя хвіліны і прыцягнуць да суровай адказнасці.

**Надзея КУРЫЛЁВА.**

АКЦЫЯ

## Пікет у некалькі секунд

*Учора на Кастрычніцкай плошчы былі затрыманы актывісты, якія вырашылі правесці акцыю ў гонар 70-годдзя прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.*

*“Тая самая дэкларацыя кажа пра тое, што любы чалавек мае права на мірныя сходы, таму мы і вырашылі з паплечнікам Сержуком Падзолкам выйсці на плошчу*, – распавёў “Народнай Волі” адзін з удзельнікаў акцыі **Аляксандр Абрамовіч.** – *Акрамя таго, вырашылі прыцягнуць увагу да “справы прафсаюзаў”, бо лічым прысуд незаконным”.*

Актывісты прастаялі на плошчы з плакатамі ўсяго некалькі секунд. Да іх падбеглі людзі ў цывільным і пасадзілі ў мікрааўтобус. Разам з імі забралі і Наталлю Гарачка, якая ўсё здымала на тэлефон.

Таксама супрацоўнікі праверылі і знялі на відэа пасведчанні журналістаў, якія прысутнічалі на акцыі.

Як паведаміў затым Аляксандр Абрамовіч, у райаддзеле міліцыі Цэнтральнага раёна на яго склалі пратакол і пазней будуць судзіць за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве. Відаць, такі ж лёс чакае і астатніх удзельнікаў акцыі.

**Віктар ШПАК.**

*Фота аўтара.*




ВІЗІТ

## Беларусь будзе здабываць золата ў Судане

Такога яшчэ не было – мы, беларусы, будзем здабываць золата. У Судане.

Аб гэтым Аляксандр Лукашэнка сказаў учора журналістам пасля сустрэчы з прэзідэнтам Судана Амарам Хасанам Ахмедам аль-Башырам.

Дасягнуты і іншыя дамоўленасці. У Судане будзе дзейнічаць наш машынабудаўнічы цэнтр. Мы таксама пабудуем сельскагаспадарчы комплекс для вытворчасці малака і мяса. У планах – узвядзенне цяпліц для вырошчвання гародніны і расады ў закрытым грунце.

ДАСЬЕ



## Амаль 30 гадоў ва ўладзе, генацыд, раскол краіны…

Амар Хасан Ахмад аль-Башыр рэгулярна фігуруе ў спісах самых жорсткіх дыктатараў свету, часта яго называюць самым жорсткім у Афрыцы. Бывала, што аль-Башыра называлі наогул найгоршым дыктатарам свету – напрыклад, такім яго назваў у сярэдзіне 2000-х часопіс Parade. Нью-Ёркская газета Epoch Times паставіла аль-Башыра на 5-е месца ў свеце – следам за ім ішоў якраз Лукашэнка.

Аль-Башыр прыйшоў да ўлады ў 1989 годзе ў выніку ваеннага перавароту, з таго часу захаваў пасаду.

У 2009 годзе ён стаў першым дзейным кіраўніком дзяржавы, на якога Міжнародны крымінальны суд выдаў ордар на арышт. Яго прызналі вінаватым у кіраванні кампаніяй масавых забойстваў, гвалтаванняў і рабаванняў у правінцыі Дарфур, ваенных злачынствах і злачынствах супраць чалавецтва.

Канфлікт у Дарфуры, які доўжыцца з 2003 года, паводле ацэнак ААН, забраў жыцці 300 тысяч чалавек. ЗША і шэраг міжнародных арганізацый прызналі дзеянні суданскіх улад у Дарфуры генацыдам.

Незалежнасць ад Судана ў 2011 годзе абвясціў Паўднёвы Судан, у якім у 2013 годзе пачалася грамадзянская вайна.

Эксперты ААН лічаць, што Судан парушыў санкцыі гэтай арганізацыі адносна закупу ўзбраенняў, выкарыстоўваючы супраць антыўрадавых паўстанцаў у правінцыі Дарфур ракеты і самалёты.

Валавы ўнутраны прадукт ў Беларусі і Судане амаль роўны, але паводле ВУП на душу насельніцтва Судан на 135-м месцы ў свеце, калі Беларусь – на 65-м (World Bank, 2017). Большая частка эканомікі Судана прыпадае на аграрны сектар. Да 90% экспарту Судана прыпадаюць на нафту і нафтапрадукты.

**(Паводле Радыё Свабода.)**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Экзамен для краіны, экзамен для «Народнай Волі»

Так, Беларусь чакаюць чарговыя выбары – парламенцкія і прэзідэнцкія.

Лёсавызначальны экзамен для краіны, для ўсяго грамадства! Разам з усёй Беларуссю архіважны экзамен будзе здаваць і “Народная Воля”. Ужо сёння рэдакцыйны калектыў думае над тым, як у наступным годзе падняць творчую планку, больш актыўна праявіць сябе ў адстойванні прынцыповых пазіцый, у змаганні за новую, дэмакратычную Беларусь.

Вядома ж, шаноўныя чытачы, мы будзем пачуваць сябе больш моцнымі, калі і ў 2019 годзе побач з намі будзеце Вы. Давайце павялічым шэрагі прыхільнікаў “Народнай Волі”. Афарміце падпіску на першае паўгоддзе самі – парайце гэта зрабіць іншым. Будзем шчыра ўдзячны Вам, калі ў выглядзе навагодняга падарунка падпішаце на “Народную Волю” каго-небудзь са сваіх блізкіх – бацькоў, сяброў, саслужыўцаў, суседзяў. Кожны раз, чытаючы свежы нумар газеты, яны будуць узгадваць Вас словамі падзякі за такі незвычайны падарунак. А кошт месячнай падпіскі – усяго 7 рублёў 20 капеек. Афарміць падпіску можна на любы тэрмін.

Давайце разам трымаць экзамен, які ставіць перад намі жыццё!

**Рэдакцыя газеты “Народная Воля”.**

ЗНАЙ НАШИХ!

## «Золотой Прометей» Дарьи

На Тбилисском международном кинофестивале определены победители. Лучшим фильмом назван «Хрусталь» режиссера Дарьи Жук (Беларусь). Награда – «Золотой Прометей» – маленькая бронзовая композиция, олицетворяющая негасимый огонь творчества.

Тбилисский фестиваль появился в пестрой «семье» международных кинофорумов в 2000 году. В этом году Беларусь также принимала в нем участие и сразу получила высокую награду.

Фильм «Хрусталь» выдвинут от Беларуси на премию «Оскар» за 2018 год.

**Елена ЛУБНЕВСКАЯ.**

РАКУРС

## «У Казбека нарадзілася трэцяе дзіця, таму, напэўна, яго і памілавалі…»

Учора некаторыя СМІ паведамілі пра тое, што Аляксандр Лукашэнка памілаваў Казбека Япрынцава. У жніўні 2016 года сын вядомага бізнесмена і кампаньёна **Юрыя Чыжа Уладзіміра Япрынцава** быў прыгавораны да пазбаўлення волі на 8 гадоў за махлярства, і ўжо, нават не адбыўшы паловы тэрміну, выйшаў на волю.

– *У Казбека нядаўна нарадзілася трэцяе дзіця, дачушка*, – паведаміла нам блізкая да сям’і крыніца, – *таму, напэўна, яго і памілавалі… Сям’я стала шматдзетнай, ягонай жонцы Наталлі, самі разумееце, вельмі складана спраўляцца адной. Акрамя таго, у Казбека ёсць дзіця ад першага шлюбу. Магчыма, і з гэтай прычыны ён звярнуўся да прэзідэнта… Ад даўгоў ён не адмаўляецца і на волі хутчэй усё вырашыць.*

Трэба адзначыць, што практыка памілавання досыць распаўсюджана ў Беларусі, праўда, прымяняецца не да ўсіх, а ўсё больш у дачыненні да чыноўнікаў. Так, напрыклад, Аляксандр Лукашэнка ў 2016 годзе памілаваў асуджананага ў 2014-м на 8 гадоў былога намесніка старшыні канцэрна “Белнафтахім” **Уладзіміра Волкава**. Таксама, прасядзеўшы ў месцах пазбаўлення волі менш за вызначаны судом тэрмін, былі вызвалены датэрмінова былы намеснік генпракурора **Аляксандр Архіпаў** і былы гендырэктар “Магілёўдрэва” **Андрэй Усаў**. І гэта толькі некалькі прыкладаў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ГРОМКАЯ ТЕМА

## Все – на свободе?

*«Народная Воля» поинтересовалась, арестованы ли чиновники одного из районов Минска.*

В конце ноября на республиканском семинаре-совещании о повышении эффективности строительного комплекса Беларуси Александр Лукашенко рассказал об одном из вопиющих фактов коррупции, о котором ему доложили силовики.

Вот как сообщала об этом президентская пресс-служба: *«Речь шла о строительстве в Минске квартир по приемлемым ценам, которыми впоследствии должны были распоряжаться городские власти: либо продавать по рыночной стоимости, либо предоставлять жилье малообеспеченным и многодетным. По словам Александра Лукашенко, он тогда принял решение о строительстве по такой схеме. А недавно главе государства доложили, что более 60 таких квартир, построенных по цене, эквивалентной 650 долларам, купили какие-то дельцы для последующей перепродажи по рыночной цене. «54 или 56 успели продать квартир. А где председатель горисполкома? По-моему, в Центральном районе это было. А где руководители этого района? Вчера мною было принято решение: всех до единого в следственный изолятор, надеть наручники, разобраться со всеми и вернуть деньги народу», – заявил президент».*

Тогда же Лукашенко пообещал разобраться и с председателем Мингорисполкома **Андреем Шорцем.** Правда, его назавтра отправили не в следственный изолятор, а в отставку. При этом Лукашенко пообещал подыскать Шорцу другую работу. Пока новостей о новом трудоустройстве эксградоначальника не было.

Да и с уголовным делом много неясного. Возбуждено ли оно вообще?

Так, ***официальный представитель КГБ Беларуси Андрей Ярош*** сказал «Народной Воле», что не располагает информацией по этому вопросу.

В Следственном комитете ответили примерно так же: *«По нашей линии подобных уголовных дел пока нет».*

***В Администрации Центрального района Минска*** на вопрос о том, уже надели на кого-то наручники или они будут вот-вот надеты, ответили очень конкретно: *«Никаких уголовных дел в отношении наших сотрудников не возбуждалось. Руководство Центрального района Минска, назначенное в июне этого года, как работало, так и продолжает работать. А наш прежний начальник* ***Игорь Иванович Бузовский*** *назначен заместителем министра информации. И он тоже на свободе».*

***В УКСе Центрального района,*** под стенами которого ночевали люди, чтобы получить дешевые квартиры, а затем перепродать их с накруткой в 20 тысяч долларов, высказывание Лукашенко комментируют весьма неохотно и заявляют, что *«руководство УКС Центрального района Минска находится на свободе».*

**Марина КОКТЫШ.**

СКАНДАЛ

# Боже, какой позор!

В конце прошлой недели случился скандал. Александр Варламов, известный в России блогер, опубликовал разоблачение. Оказалось, сюжет российского Первого канала от 21 ноября об очередной годовщине Майдана – о том, как плохо сейчас жить в Украине и как недовольны украинцы, – снимался в Беларуси. Появившийся в кадре «Кирилл Чубенко (Украина)» – на самом деле минчанин Виталий Юрченко, постановочные кадры о замерзающем в неотапливаемом жилище молодом человеке записывались в теплой минской квартире.



Кадр из видео Первого канала.

Как только вскрылась правда, Виталий Юрченко не стал прятаться и честно признался: *«Да, в сюжете я. Мне бесконечно стыдно! Мне нет оправданий. Я хочу извиниться перед всеми, кто это видел и слышал. То, что я вляпался в нехорошую историю, понял сразу, как только записали сюжет, но материал уже пошел в Москву, вернуть все обратно было нельзя»*.

Виталий рассказывает: он работал аналитиком в белорусской компании, которая обеспечивает организацию съемок с места событий для телеканалов и медиахолдингов разных стран мира, ищет исполнителей – операторов-фрилансеров на местах. В конце ноября российский Первый канала (программа «Время») заказал сюжет из Украины, из Кривого Рога, где, по задуманному сценарию, должна быть такая картинка: несмотря на холодную погоду, местные власти не дали отопление в квартиры, и в городе, мол, зреет новый Майдан – уже против нынешней власти.

Белорусы нашли в украинском городе оператора, заказали сюжет, но когда получили отснятый материал, то якобы обнаружились неполадки со звуком. Кадр с замерзающим в холодной квартире молодым человеком надо было срочно переснять, поэтому пошли на подлог – решили записать все по-быстрому в Минске, и Виталия Юрченко попросили сыграть разочаровавшегося в Майдане украинца.

*«Почему я согласился, не знаю до сих пор*, – говорит Виталий. – *Продюсер попросил помочь, а про последствия я сразу не подумал»*.

Можно понять: когда молодой сотрудник вливается в коллектив (а в компании Виталий работал только 4 месяца и, к слову, недавно уволился, но не в связи с этим скандалом), то сложно отказать начальнику в просьбе. И Виталий Юрченко тысячу раз пожалел о своем поступке и раскаивается. Это очевидно. Непонятно другое. Как идея создать и продать заказчику подложный ролик пришла в голову руководству компании? Можно ли тогда говорить об их профессиональной честности, ответственности, добросовестности? Первый ли это случай? Неужели они не понимали, что подставляют не только парня, но и свой бизнес? И, в конце концов, зачем вообще белорусское предприятие согласилось принять участие в работе над явно пропагандистским сюжетом российского Первого канала, в то время как Беларусь старается занимать нейтральную позицию в противостоянии Киева и Москвы? Ведь сегодня уже доподлинно известно, что из Москвы белорусской компании поступили четкие рекомендации, что должно быть в сюжете: замерзающий в квартире без отопления бывший участник Майдана, разочарованный в нынешней власти.

Яков Бута.

Никаких иных мнений записывать не надо было.

Компания, которой российский Первый канал заказал этот ролик, – StringersHub. Ее владелец и руководитель – 28-летний **Яков Бута**. Он выпускник журфака БГУ, несколько лет работал на Белорусском телевидении. Год назад пресса писала о нем как об успешном бизнесмене, который занялся производством видео и хочет конкурировать с Reuters. Сообщалось, что созданный Бутой сервис StringersHub организовывает съемки почти в любой точке мира, что это удачный стартап с перспективным будущим. Среди заказчиков StringersHub – российские федеральные каналы – «Россия 24», Life, «Звезда», РЕН ТВ, казахстанский «Хабаре», грузинский IMEDI и другие.

*«Всего StringersHub аккумулировал более тысячи стрингеров – журналистов, операторов и других профессионалов,* – писал о белорусском бизнесмене в ноябре прошлого года портал РБК. – *Гонорар работников Буты варьируется от 20 до 1500 долларов: стоимость зависит не только от уровня запросов стрингера, но и от места и продолжительности съемок. StringersHub берет за посредничество «комиссию» в 100 процентов – столько же, сколько получает стрингер. По словам Буты, выручка сервиса составляет около 10 тысяч долларов в месяц, чистая прибыль – 3–4 тысячи»*.

По нашей информации, StringersHub был в шаге от регистрации в Парке высоких технологий, что, безусловно, давало компании много преимуществ. Резиденты ПВТ, как известно, имеют льготное налогообложение. Российско-белорусский фонд венчурных инвестиций готов был инвестировать в StringersHub более 300 тысяч долларов. Теперь, после этого громкого скандала, возможно, выгодные предложения пройдут мимо StringersHub. Основатель портала Тут.бай **Юрий Зиссер** кратко и емко охарактеризовал то, что случилось: *«Боже, какой позор и обман! Ничего себе «стартап»! Сэкономили пять копеек, бизнес-репутацию своего подававшего надежды проекта погубили»*.

Кстати, что касается сюжета о замерзающем украинце, за которого выдавал себя белорус Виталий Юрченко, то в StringersHub первоначально категорически отказывались от каких-либо комментариев. Только в понедельник 10 декабря появился ролик, в котором Яков Бута озвучил позицию StringersHub. Если кратко: приносим извинения за то, что недосмотрели, не проконтролировали и впредь постараемся сделать все, чтобы застраховать наших пользователей от подобных проблем. *«Здесь не идет речь о спланированных провокациях, создании осознанных фейков или участии в информационных войнах. Это банальный непрофессионализм»*, – заявил Яков Бута. Но в его речи все же не было конкретного ответа на один важный вопрос: зачем вообще надо было соглашаться на участие в съемках пропагандистского ролика российского Первого канала? Поскольку Бута на диалог тет-а-тет не согласился, мы задали этот вопрос техническому директору StringersHub журналисту **Юрию Тоболину.**

*«Какая-то точка зрения, принципиальная позиция нашей компании по данному вопросу в этом ролике не была отражена*, – пояснил Юрий Тоболин. – *Мы были исключительно связующим звеном между заказчиком и исполнителем. Обе стороны готовы были работать… Но, безусловно, данная ситуация стала для нас поучительной со всех сторон, в том числе и в том, какие принимать заказы. Выводы для себя мы сделали»*.

А сделают ли должные выводы хозяева российского Первого канала, которые очень далеко зашли в антиукраинской тематике? Похоже, имперскость Кремля берет верх над здравым смыслом.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

К СВЕДЕНИЮ

*Как известно, с 1 января 2019 года граждане трудоспособного возраста, не занятые в экономике, будут полностью оплачивать горячую воду, а с 1 октября – отопление и газовые колонки.*

## Хотите узнать, попали ли вы в базу «тунеядцев»?

Для этого вам нужно зайти на Единый портал электронных услуг – **www.portal.gov.by** и найти ссылку «Предоставление посредством ОАИС доступа к базе данных трудоспособных граждан, не занятых в экономике».

Но обращаем внимание: чтобы зайти в базу данных, вам вначале нужно получить доступ. Есть два варианта. Самый простой – обратиться к оператору «одного окна» в исполкоме или непосредственно в Республиканский удостоверяющий центр в Минске, который находится по проспекту Машерова, 25, и взять специальные логин и пароль. Услуга эта бесплатная, но у вас потребуют паспорт.

Второй вариант – сделать электронный ключ. Но за это нужно будет заплатить 51 рубль 55 копеек. Скажете, многовато? Но имея электронный ключ, вы сможете получить ряд других электронных услуг – открыть ИП, отправить налоговую декларацию онлайн и т.д.

## Кто будет поставлять информацию о трудоспособных, но не занятых в экономике граждан?

Такое право предоставлено разным государственным органам. Но прежде всего за использованием рабочей силы будет следить Министерство труда. Фонд соцзащиты заинтересован в трудоустройстве людей, как и Министерство по налогам и сборам. Информация о неработающих будет поступать также от Минздрава и других госорганов.

Поскольку имеется много однофамильцев с совпадением имен и отчеств, то во избежание ошибок в базу данных о трудоспособных, но не занятых в экономике, будут подаваться развернутые сведения: ФИО, дата рождения, пол, гражданство, серия и номер паспорта (или другого документа, удостоверяющего личность), идентификационный номер и т.д.

## Кто освобожден от полной оплаты «коммуналки»?

Новая версия президентского декрета значительно расширила список тех, кто не будет считаться «тунеядцем». Могут не волноваться те, кто трудится по договорам подряда, индивидуальные предприниматели, адвокаты, нотариусы, ремесленники, творческие работники, состоящие в официальных профессиональных союзах, военные, студенты, работающие или проходящие обучение за границей, жены дипломатов и т.д. Полный перечень тех, кто освобожден от оплаты полной коммуналки, дается в Положении о порядке отнесения трудоспособных граждан к не занятым в экономике.

## Вы попали в базу данных, но у вас нет возможности полностью оплачивать «коммуналку»…

Всякие ситуации бывают. Если вы оказались в списке трудоспособных, но не занятых в экономике граждан, и у вас нет средств для оплаты коммунальных услуг по полным тарифам – обращайтесь в постоянную комиссию по координации работы по содействию занятости населения, действующую при исполкоме. Она и решит, освободить вас от оплаты полной «коммуналки» или нет. Будут учитываться все ваши обстоятельства. Например, у вас нет возможности работать, потому что нужно ухаживать за больным. Конечно же, в таком случае вам пойдут навстречу.

НЕСТАНДАРТ

# Беларуская «Адметнасць»

*Сяргей і Вольга Верамеенкі адкрылі ў Гродне краму, у якой усе тавары, што прадаюцца, – з беларускай сімволікай. Як робіцца бізнес на беларускім? Журналіст «Народнай Волі» вырашыў наведаць краму і пагаварыць з яе гаспадарамі.*

…Спадар Сяргей паказвае беларускую вышыванку з натуральнага лёну, распавядае, дзе яна пашыта. Кліенты яўна зацікаўлены. А побач за сталом яго жонка расшывае беларускім узорам хатнія тапкі з воўны. Кажа, што гэта заказ з Нямеччыны: *«Былая гродзенка, якая зараз жыве там, летам набыла ў нас адну пару, а нядаўна прыехала і замовіла яшчэ тры – папрасілі суседзі»*.

Сяргей і Вольга Верамеенкі – рамеснікі, робяць рознага кшталту сувеніры. Нядаўна замахнуліся на тое, каб адчыніць краму, у якой прадаюць не толькі свае вырабы.


Сяргей і Вольга Верамеенкі ў краме «Адметнасць».

### Шлях да беларускасці

Першай пачала займацца рамесніцтвам Вольга, потым схіліла да яго і мужа. Вырашылі нават адкрыць краму, каб рэалізоўваць свае тавары.

*«Усе тавары, што прадаюцца ў нашай краме, – з беларускай сімволікай, таму што мы самі любім Беларусь, жывём ёю,* – кажа Сяргей. – *І нам вельмі хочацца, каб і іншыя людзі маглі не толькі цешыцца беларускімі сувенірамі, а і прыгожа апрануцца на свята ў беларускія нацыянальныя строі. Днямі на футболе бачыў фанатаў «Нёмана», апранутых у світары з «Пагоняй» – вельмі прыгожа!»*

Верамеенкі ўпэўнены: прыгожае адзенне і цікавы сувенір – гэта адзін з шляхоў, які можа прывесці чалавека да беларускасці.

Дарэчы, раней Сяргей працаваў таксістам. Пытаюся: як гэта ён так раптам перакваліфікаваўся ў рамеснікі?

*«Дык у мяне і таксі было беларускае,* – усміхаецца Сяргей. – *Усе надпісы ў машыне былі на беларускай мове, кліентаў абслугоўваў па-беларуску, у салоне вісеў бел-чырвона-белы сцяжок. І кліентам маім гэта падабалася, асабліва турыстам. Вельмі любілі слухаць беларускую мову масквічы. Яны нават не ўяўлялі, што нашы мовы так адрозніваюцца, што ў нашай краіне да расійскіх цароў былі свае князі ды каралі»*.

### Бізнес ёсць справа

Але, перш чым распачаць свой бізнес, Сяргей і Вольга пралічылі магчымасці.

*«Ведаеце, гэта ўсё ж бізнес, а значыць, грашовыя дачыненні, пэўная рызыка. Давялося і пазычаць грошы. Але боязі асаблівай не было,* – успамінае Вольга. – *Цяпер бачу, што людзі прыходзяць, купляюць, цікавяцца, замаўляюць. А нам не так ужо і шмат трэба – галоўнае апраціць усе расходы і зарабіць, каб можна было пражыць…»*

Распрацаваны свае маркетынгавыя ходы, распавядае Сяргей, вывучаецца попыт на рынку падобных паслуг у горадзе. Гаспадары крамы не прэтэндуюць на статус вялікіх бізнесменаў, але лічаць, што слова «бізнес» у нашым грамадстве часам трактуюць няслушна.

*«У нас дагэтуль паняцце «бізнесмен» успрымаецца як нешта заганнае,* – разважае спадар Сяргей. – *А насамрэч бізнес – гэта справа, гэта тое, чым чалавек заняты. А мы заняты сваёй любімай справай і яшчэ спрабуем на гэтым зарабіць сабе на жыццё»*.

Верамеенкі перакананы, што калі пісьменна весці справу, то праз пэўны час яна пачне прыносіць добрыя прыбыткі, нават нягледзячы на тое, што, здавалася б, у нашым грамадстве бракуе цікаўнасці да беларускага.

*«У мяне да гэтага часу некаторыя кліенты, пабачыўшы нашу краму, пытаюцца: «А вы не баіцеся?»,* – распавядае спадар Сяргей. – *А чаго нам баяцца? Таго, што мы выкарыстоўваем сімволіку, якой нашы продкі карысталіся на працягу апошніх 700 гадоў? Мы, наадварот, бачым, што яна прыцягвае – і не толькі тых, хто ўжо вызначыўся са сваёй нацыянальнай ідэнтычнасцю»*.

### Беларускае – адметнае

Спадар Сяргей распавядае пра тавары, якія рэалізуюцца ў краме: *«Вось, здавалася б, звычайныя цішоткі, а мы надрукавалі на іх «Пагоню», беларускія надпісы – і атрымаўся зусім іншы тавар. Кубкі мы набываем проста белыя і самі на іх наносім беларускую сімволіку. Дзіцячыя сувенірныя лялькі – гэта праца іншых рамеснікаў. А кашулі, сукенкі, абрусы, сурвэткі з ільна – прадукцыя Слонімскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Ёсць у нас касметычкі, падарункавае мыла з беларускімі сімваламі, бейсболкі з «Пагоняй»…»*

Спадарыня Вольга паказвае шалікі, рукавіцы, сувенірныя валёначкі, камізэлькі, дзявочыя ўпрыгажэнні, дзявочыя шапкі, якія яна робіць сама.

*«Мы даўно заўважылі, што сучасныя людзі імкнуцца быць адметнымі. А адметнасць – гэта не толькі сцяг і герб, але і беларускія арнамент, мова, іншыя этнаграфічныя элементы. І гэта ўсё мы будзем выкарыстоўваць у нашай прадукцыі»*.

Верамеенкі самі не чакалі такой цікаўнасці збоку людзей, якіх ніколі не сустракалі на беларускіх імпрэзах і мерапрыемствах.

*«Асабліва ўражвае, калі прыходзяць школьнікі і студэнты, набываюць нешта таннае кшталту магніцікаў ці кубкаў, але для іх вельмі важна, каб гэта было беларускае,* – дзеліцца сваімі назіраннямі гаспадыня крамы. – *Таксама здзіўляюся, калі прыходзяць салідныя людзі, пра якіх ніколі не сказала б, што яны маюць цікавасць да беларускага, – а тут набываюць бейсболку з «Пагоняй» альбо цішотку з арнаментам»*.

Але самы «адметны» кантынгент – тыя, хто размаўляе па-беларуску.

### «Беларусы вельмі рукастыя, толькі б ім не перашкаджалі»

Гаспадары крамы «Адметнасць» плануюць прадаваць і вырабы іншых рамеснікаў.

*«Вы нават не ўяўляеце, наколькі беларусы рукастыя!* – з захапленнем кажа Вольга. – *Яны могуць зрабіць неверагодныя рэчы, толькі б ім не перашкаджалі. Але, на жаль, пакуль існуе шмат перашкод. Рамеснік шмат часу аддае на выраб сваёй прадукцыі, а прадаваць даводзіцца за капейкі»*.

Сяргей зазначае, што ў апошні час дзяржава шмат у чым пайшла на саступкі, займацца рамесніцтвам стала лягчэй, але гэтага недастаткова.

*«Высокі кошт арэнды памяшканняў у горадзе, высокія цэны на матэрыялы і саму вытворчасць сувеніраў, наогул дарагое жыццё і малыя даходы ў людзей,* – зазначае спадар Верамеенка. – *Хлеб рамесніка сёння не з лёгкіх, пра гэта трэба помніць, набываючы іх вырабы»*.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



# Пас Сяргея Румаса

Падводзячы вынікі футбольнага сезона на цырымоніі «Зорны мяч-2018», Сяргей Румас нечакана выступіў па-беларуску. Што гэта сталася неспадзяванкай для ўсіх прысутных, было відно па здзіўленых тварах вядоўцаў і – асабліва – па імправізаваным выступленні міністра спорту Сяргея Кавальчука. Трохі разгубіўшыся, ён (усё ж кадравы вайсковец) хутка ўзяў сябе ў рукі і прамаўляў таксама на першай дзяржаўнай, папярэдне агаварыўшыся: «Калі начальнік па-беларуску, то і я павінен».

У гэтай агаворцы – увесь наш нацыянальны характар. Можна прыняць дзесяць законаў у падтрымку беларускай мовы, але калі на ёй не загаворыць вярхоўная ўлада, то і народ не абзавецца. Хоць у апытальных лістах падчас перапісу назаве мову роднай, пры нагодзе – прыгожай і мілагучнай, але штодзённа карыстацца ёю не адважыцца. А вось калі прыклад пакажа начальнік – тады другая справа. Следам за дзедам і мы з суседам.

Прэм’ер-міністр – другая асоба ў дзяржаве. І хоць на ролю «дзеда» спадару Румасу ранавата (і па гадах, і на пасадзе ён усяго пару месяцаў), падначаленыя, як бачым, ісці за ім гатовы. Здавалася б, учынак прэм’ера заслугоўвае падтрымкі і з боку грамадства, асабліва той часткі, якая штодзённа «змагаецца за Беларусь». Маю на ўвазе розныя інтэрнэт-форумы, дзе паказаць геройства можна, не вылазячы з-пад коўдры. Аднак Румасава прамова выклікала больш крытыкі, чым пахвалы. І ад сваіх, і ад чужых. Свае папракалі прэм’ера за чытанне з паперкі і заіканне. Ды і выступаў ён, маўляў, не як кіраўнік урада, а як старшыня футбольнай федэрацыі.

Што ж, яшчэ гэткі не спаткаўся, каб усім спадабаўся. Як відавочца падзеі, хачу ўдакладніць: Сяргей Румас глядзеўся ўпэўнена і годна, у паперку заглядваў, але не трымаўся напісанага, як сляпы плоту, не заікаўся, бо ад прыроды не заіклівы. Што да статусу, то подпіс на тэлеэкране сведчыў адназначна – выступае прэм’ер-міністр. Гэта дадаткова пацвердзіў і міністр спорту, ужыўшы слова «начальнік». Бо як старшыня федэрацыі Румас для яго хутчэй падначалены.

Але ўся крытыка сваіх выглядае бяскрыўднай по́дмазкай у параўнанні з атрутнай слінай, у якой ледзь не захлынулася расійскае інфармагенцтва «Рэгнум». Рыгнула так, што захацелася папшыкаць асвяжальнікам паветра для прыбіральняў.

Беларускамоўнае выступленне Румаса «Рэгнум» назваў «бандеровским поступком». Дасталося па шапцы і Кавальчуку, які выступаў па-беларуску, аказваецца, з адной мэтай – «чтобы быть в бандеровском трэнде своего шефа». І ўвогуле, на думку «Рэгнума», «Лукашенко запустил во власть слишком много бандеровцев, чтобы шантажировать Россию».

Можна падумаць, што Румас з Кавальчуком хорам выкрыкнулі ў мікрафон «Чамадан–вакзал–Расія!». Або – станчылі на сцэне лявоніху, пагрозліва папярэдзіўшы залу: «Хто не скача, той маскаль». Або – праспявалі дуэтам даўнюю паўстанцкую песню: «Пойдзем, пойдзем да Касцюшкі – рубаць будзем маскалюшкі».

Не крычалі, не танчылі і не спявалі. Усяго толькі сказалі колькі слоў па-беларуску. Не пра палітыку, пра футбол. І былі абазваны «бандэраўцамі». Бо для «Рэгнума» і шмат для каго ў Расіі беларуская мова – маркер нацыяналізму, паказчык недалучэння Беларусі да «русского мира». А значыць – скасіць яе пад корань.

Каму касіць, а каму касу насіць. На жаль, у Беларусі знойдзецца нямала ахвотнікаў панасіць тую касу. І ўласнай гадоўлі манкуртаў, і засланцаў з усходу, што пазасноўвалі ў нашай краіне розныя прарасійскія арганізацыі. Скажам, у Мінску ёсць «Дом Масквы», штат там – як у міністэрстве. Неяк мой сябра-перакладчык звярнуўся туды з прапановай выдаць складзеную ім анталогію рускай паэзіі ў беларускіх перакладах. Адказ быў – асадзі назад, «Пушкина и Пастернака белорусы должны читать в оригинале»...

Гаварылася і гаворыцца пра міждзяржаўны культурны абмен, пра раўнапраўе ва ўсіх сферах. Помніцца, калі ў Маскве на Кутузаўскім праспекце паўстаў помнік Янку Купалу, многія чакалі, што Пуцін з маскоўскімі беларусамі пойдзе вакол помніка ў купальскім карагодзе. Не пайшоў. Нават не прыпыніўся ні разу каля Купалы, ездзячы міма яго на працу.

Ці – зусім нядаўні прыклад. У тэлешоў Максіма Галкіна «Лучше всех» удзельнічаў 11-гадовы паліглот з Пецярбурга Антон Вакуленка. Хлопчык свабодна размаўляе на 15 мовах, а самыя любімыя ў яго – іспанская, турэцкая і беларуская. Шоўмен аж недаверліва перапытаў: няўжо і беларуская? Па яго рэакцыі было відно, што дзяржаўную мову суседняй краіны ён лічыць нявартай увагі, другараднай. Што ж, комплекс «старэйшага брата» жывучы, як мох у тундры.

І калі мы тым мохам заімшым сцены нашай беларускай хаты, то век жыцьмем на скразняку, ляскаючы зубамі ад холаду. І бярвення, і моху ў нас, дзякаваць Богу, і сваіх хапае. Будуймася. А што «бандэраўскай хунтай» у чыіхсьці падслепаватых вачах будзем выглядаць, то не зважайма. Чужое поле – чужая воля.

Лепш давайце паклапоцімся пра сваё поле. На гэтым полі прэм’ер-міністр Сяргей Румас аддаў прыгожы пас, які лёгка падхапіў міністр спорту. А ці заб’юць яны выніковы гол – залежыць ад усіх нас, заўзятараў на трыбунах.

ЧУЛІ?

## Velcom шукае перакладчыкаў

***Беларускі мабільны аператар Velcom размясціў на сайце Marketing.by абвестку пра пошук падрадчыка для перакладаў фільмаў на беларускую мову.***

Як расказала прадстаўніца кампаніі **Ганна Пракаповіч**, адабраныя 65 стужак для перакладу і агучвання адносяцца да самых розных жанраў. Якія канкрэтна гэта будуць фільмы, пакуль сакрэт нават ад перакладчыкаў. Калі яны возьмуцца за працу, будуць патрабаваць падпісаць дамову аб неразгалошванні.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
11 СНЕЖНЯ 2018 г.

БЕЛАРУСЬ–РОССИЯ

# Сколько ждать обещанного?

*«По итогам совещания в начале декабря 2018 года с участием антимонопольных ведомств и министерств связи, а также операторов связи наших стран, мы договорились, что в 2019 году вопрос отмены роуминга в Союзном государстве Беларуси и России должен быть решен»,* – сообщил вчера руководитель Федеральной антимонопольной службы России (ФАС) **Анатолий Голомолзин**.

Об отмене роуминга между Беларусью и Россией велось обсуждение еще в прошлом году на Высшем госсовете Союзного государства. Тогда обе стороны поддержали эту инициативу, но весной 2018-го госсекретарь СГ **Григорий Рапота** заявил, что положительные сдвиги в этом вопросе есть, но скорого решения по отмене роуминга ожидать не стоит.

ВІНШУЕМ!

# Прэміі знайшлі сваіх герояў

Учора, у Міжнародны дзень правоў чалавека, адбылася цырымонія ўзнагароджання штогадовай Нацыянальнай праваабарончай прэміі.

Пераможцамі ў намінацыі "Праваабаронца года" стала **Вольга Смалянка** з Цэнтра прававой трансфармацыі і лідары незалежнага прафсаюза РЭП **Генадзь Фядыніч** і **Ігар Комлік**.

Лаўрэатам у намінацыі "Журналіст года" стала галоўны рэдактар БелаПАН **Ірына Леўшына.**

У намінацыі "Кампанія/ініцыятыва года" лаўрэатам была прызнана кампанія **"Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі"**. Узнагароду атрымалі каардынатар кампаніі **Андрэй Палуда** і яе актывістка **Паліна Сцепаненка**.

СМУТАК

# «Гэта аўтарытэт, які недасягальны для крытыкі…»

*Памерла праваабаронца, адна з заснавальніц Маскоўскай Хельсінкскай групы Людміла Аляксеева.*



Людміла Аляксеева займалася праваабарончай дзейнасцю амаль 50 гадоў, пачынаючы з першых пратэстаў супраць арышту і асуджэння ў 1966 годзе пісьменнікаў Андрэя Сіняўскага і Юрыя Даніэля, якія публікавалі свае кнігі за мяжой у абыход цэнзуры.

Была адным з ініцыятараў аказання матэрыяльнай дапамогі палітычным зняволеным і іх сем'ям. У 1970-я ёй пагражала пазбаўленне волі за распаўсюджванне самвыдату, а таму Аляксеева была вымушана эмігрыраваць у ЗША, дзе яна пражыла 15 гадоў.

Людміле Аляксеевай быў 91 год, але, нягледзячы на ўзрост, яна займалася праваабарончай дзейнасцю да апошняга.

*"Я яе даўно ведаю, але гадоў пяць таму адбылася вельмі цікавая сустрэча ў Вільнюсе,* – распавёў "Народнай Волі" былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі **Станіслаў Шушкевіч.** – *На мерапрыемства прыйшла расійская моладзь пракамуністычных поглядаў, і асабліва актыўнічаў адзін яе прадстаўнік. Ён сказаў, што лічыць неабходным зрабіць заўвагу ў адрас Людмілы Аляксеевай, пачаў крытыкаваць яе… Мяне гэта вельмі абурыла, я выйшаў на трыбуну і сказаў: "Хацеў бы паважаным маладым людзям нагадаць адну прымаўку, якая гучыць так: "Бяда, калі пігмеі пачынаюць вучыць тытанаў". Зала пасля гэтага ўстала і пляскала ў далоні, а Людміла Міхайлаўна пазней падышла і ціха падзякавала. Яна нават не ведала, як паставіць на месца тых маладых людзей, а я разумеў, што гэты чалавек і ёсць той самы аўтарытэт, які недасягальны для крытыкі".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДУХОЎНАЯ ПОВЯЗЬ

# Быць беларусамі!



*Каб беларусы адчулі сябе беларусамі – такую грандыёзную задачу паставілі перад собой дзесяць гадоў таму стваральнікі папулярнай сёння кампаніі «Будзьма беларусамі!». А прыйсці да разумення таго, што ў краіне існуе вялікая праблема з нацыянальнай ідэнтычнасцю, дапамагла шматгадовая праца з беларусамі замежжа. Пра тое, ці змаглі беларусы за гэты час стаць больш свядомымі, далучыцца да роднай культуры, зразумець і палюбіць яе, – наша гутарка з кіраўнікамі міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» **Аленай Макоўскай** (злева) і **Нінай Шыдлоўскай**.*



**– Сёння пра кампанію «Будзьма беларусамі!» добра ведаюць не толькі ў нашай краіне. У некага яна асацыіруецца з яскравымі календарамі і паштоўкамі з запамінальнымі словамі і выразамі, у іншых – з канцэртамі сучасных музыкантаў у розных кутках краіны, а ў кагосьці – з вышымайкамі і прынтамі на торбах. Раскажыце, калі ласка, пра шлях «Будзьма!» ад ідэі да поспеху.**

**Алена**: – Калі гаварыць, з чаго ўсё пачыналася… Працуючы з беларускай дыяспарай, мы назіралі за высокімі тэмпамі асіміляцыі нашых суайчыннікаў у розных краінах. З'язджаючы з Радзімы, беларусы не так часта ствараюць свае арганізацыі ці далучаюцца да існуючых. Нас вельмі клапаціла гэтая тэма, мы шукалі прычыну такой моцнай асіміляцыі і магчымасць, як аслабіць гэтыя працэсы. І зразумелі, што праблема зусім не ў замежжы, а ўнутры краіны. У беларусаў, на жаль, даволі нізкі ўзровень усведамлення нацыянальнай ідэнтычнасці. Сама ж ідэя кампаніі цалкам сфарміравалася і аформілася ў час падрыхтоўкі да святкавання 90-х угодкаў БНР.

**Ніна**: – Сапраўды, у сувязі з моцнай асіміляцыяй беларусаў у замежжы мы прааналізавалі ўсё тое, што рабілася ў краіне ў культурніцкай сферы, і з сумам канстатавалі: за дзесяцігоддзі незалежнасці Беларусі ніхто глыбока не засяроджваўся на пашырэнні ідэі нацыянальнай ідэнтычнасці за межамі беларусаарыентаванага кола. Нават палітычныя партыі тады не ставілі гэта сваёй задачай. І стала відавочна: калі не мы, то хто? І вырашылі аб'яднаць на пазапалітычнай ніве тых, хто разумее, што абвяшчэнне БНР трэба выводзіць з апазіцыйнага кола ў шырокі дыскурс. Каб людзі ведалі, што гэтая гістарычная веха – важкі падмурак цяперашняй Рэспублікі Беларусь.

На здзіўленне, ідэю з ахвотай падхапілі многія культурніцкія арганізацыі, палітычныя партыі. Мы селі за адзін стол і спланавалі шырокае святкаванне юбілею БНР. І ўсё атрымалася! Але гэта быў юбілейны год, які скончыўся... А цікаўнасць да беларускай культуры была настолькі высокая, што мы проста абавязаны былі рухацца далей.

**Алена**: – Нам патрэбна была маштабная ідэя, доўгатэрміновая акцыя, якая не заканчвалася б з кожным каляндарным годам. Мы хацелі зрабіць нашу справу заўважнай і сталі шукаць аднадумцаў. Да нас далучыліся і Таварыства беларускай мовы, і Саюз беларускіх пісьменнікаў, і Таварыства аховы помнікаў і гісторыка-культурнай спадчыны, і іншыя. Разумелі: кожны з нас паасобку робіць штосьці важнае, а калі аб'яднаемся, мы станем больш моцнымі і заўважнымі. З'явілася назва кампаніі «Будзьма беларусамі!». А ў ёй закладзены і сэнс, і кірунак дзейнасці.

Першыя складанасці, з якімі сутыкнуліся, былі ў нас саміх. Трэба было змяняць фармат дзейнасці, выходзіць на больш шырокія прасторы. Каб ладзіць адкрытыя мерапрыемствы, разлічаныя на жыхароў горада, трэба было ісці размаўляць з гарадскімі ўладамі, з якімі даўно не размаўлялі. Вучыліся пераступаць праз бар'еры, дамаўляцца. А мэта была пастаўлена амбіцыйная: зацікавіць беларускасцю небеларускамоўных і ўвогуле далёкіх ад сферы культуры людзей.

**– Як бачым, праз 10 гадоў глыба зрушылася. І ў вас з'явіліся паслядоўнікі…**

**Алена**: – Зрушылася. Уплыў «Будзьма!» бачны і ў сферы бізнесу, і ў сферы рэкламы. Упэўнена, нашы ініцыятывы паўплывалі і на ўзнікненне вышыванчага буму. Але нашай галоўнай мэтай было паказаць, што беларуская мова, гісторыя і культура могуць быць моднымі, сучаснымі, пазітыўнымі, прывабнымі. Увогуле мы будавалі ўсю кампанію на пазітыве.

**– Назавіце тры-пяць мерапрыемстваў, за якія не сорамна.**

**Ніна**: – Нам ні за якія не сорамна! Першы год мы працавалі ў рэгіёнах, праводзілі ў малых гарадах, пасёлках, вёсках літаратурна-музычныя сустрэчы. Туды ехалі празаікі, паэты, музыканты, мастакі. Выступалі ў максімальна публічным фармаце. Мы разбуралі дзесяцігоддзямі ўтворанае меркаванне аб тым, што ў беларускай сучаснай культуры няма нічога цікавага. І гэтыя першыя ганцы стварылі пазітыўны імідж кампаніі. Бо была ж праблема: у дзяржаўнай прэсе пра нашы мерапрыемствы не прачытаеш. З цягам часу пачалі ладзіць буйныя акцыі. Такія, як Фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацый «Аднак». Фэст праводзім ужо сем гадоў запар. Памятаю, як складана было спачатку пераконваць бізнесменаў, што беларуская мова – якасны сучасны камунікацыйны інструмент. Цікава, што першымі, хто стаў выкарыстоўваць мову ў рэкламе, былі замежныя кампаніі на айчынным рынку. Яны хутка зразумелі: знайсці ключык да беларускага пакупніка проста, калі гаварыць з ім на яго мове. Беларускія ж вытворцы з падазрэннем да гэтага ставіліся. А цяпер, праз сем гадоў, адбылася кардынальная змена ў поглядах – ад недаверу да ўпэўненасці: «А як інакш?!»

**Алена:** – Праект «Не маўчы па-беларуску» доўжыцца некалькі гадоў. Сутнасць яго ў тым, што кожны дзень чалавек вучыць новае беларускае слова і за год вывучае мінімум 365. У складзе каманды Анатоль Лазар, Даша Мальдзік, мы з Нінай. На пачатку кансультаваліся з мовазнаўцамі Уладзем і Аленай Лянкевічамі. Знаходзім для кожнага дня календара адметныя, каларытныя, сакавітыя беларускія словы. Нядаўна выйшаў каляндар на 2019 год. Памятаю, калі выходзіў першы, мы сарвалі працу друкарні: яе супрацоўнікі захапіліся малюнкамі, разглядвалі іх, чыталі. А мы былі здзіўлены: што такога зрабілі? Проста намалявалі і падпісалі малюнкі. Друкуем таксама і паштоўкі з гэтай серыі. І цікавасць да праекта вялікая. Ён запатрабаваны. Календары замаўляюць у дзіцячыя садкі і школы. Настаўнікі часта самі купляюць іх, выкарыстоўваюць як ілюстрацыйны матэрыял на ўроках.

Адметны праект «Край|бай» – серыя фільмаў пра невялікія беларускія мястэчкі. Яны займальныя, з гумарам. Рэжысёрам выступіў Дзмітрый Саладуха, а вядоўцам стаў Павел Харланчук-Южакоў з уласцівай яму харызмай. Пазітыўныя водгукі атрымаў і анімацыйны фільм «Гісторыя Беларусі за 5 хвілін». Многія рускамоўныя людзі пасля прагляду прызнаваліся: ролік цалкам перавярнуў разуменне беларускай культуры і гісторыі.

А наша камунікацыйная кампанія «Краіна цмокаў»!.. Калі пачыналі яе, на мэту ставілі прадэманстраваць, што наша культура і гісторыя – бязмежныя крыніцы для нэймінгу (распрацоўкі назвы) кампаній, брэндынгу гарадоў і ўвогуле для пабудовы турыстычнай прывабнасці. Колькі на падставе гэтага ўзнікла сучасных брэндаў і ў спартыўнай, і ў камерцыйнай сферы!..

**– Апошняя калекцыя бонсцікаў на міфалагічную тэматыку ў гандлёвай сетцы «Еўраопт» – таксама ваша заслуга?**

**Ніна**: – Вельмі верагодна, што гэта наступствы паслядоўнай шматгадовай працы – і ўласна нашай, і партнёраў. Смела скажу: мы шмат у чым былі першапраходцамі і давалі прыклады-ўзоры розных фарматаў працы. Да прыкладу, мы першыя, без пахвальбы, зрабілі якасную вопратку з беларускаарыентаваным прынтам, якую можна насіць як штодзённую. І за апошнія гады гэты накірунак не проста быў падхоплены, але і працягвае актыўна развівацца.

**Алена**: – Пра вопратку дадам. Калі мы пачыналі, на майках была толькі чырвона-зялёная сімволіка ці Пагоня. Такім чынам можна было вызначыць палітычныя перавагі чалавека. Але вялікая колькасць людзей знаходзіцца па-за гэтым альбо не хоча публічна дэманстраваць свае палітычныя погляды. Узнікла пытанне: а як падкрэсліць беларускасць? Мы сталі рабіць майкі і торбы з арнаментам з чалавечкаў (лога кампаніі). Пасля было вельмі шмат дызайнаў, звязаных і з анімацыйным фільмам, і з літарай «Ў» і іншымі, і з цмокамі. Іх можа апрануць кожны, незалежна ад палітычных поглядаў. Гэты кірунак падхапілі фірмы, кампаніі, індывідуальныя прадпрымальнікі. Нават трыкатажныя фабрыкі выпускаюць цяпер адзенне з нацыянальнай сімволікай, традыцыйнымі ўзорамі.

**– «Будзьма беларусамі!» і «Бацькаўшчына» – усё ж розныя рэчы ці знаходзяцца ў цесным ўзаемаспалучэнні?**

**Ніна**. – Не было б «Бацькаўшчыны», не ўзнікла б і «Будзьма беларусамі!». Статутныя задачы арганізацыі ніхто з нас не здымаў. Мы і далей працуем з беларусамі замежжа, прадстаўляем іх інтарэсы ў Беларусі. Дзейнасць «Будзьма!» скіравана на справы па папулярызацыі беларускай культуры ўнутры краіны. А «Бацькаўшчына» дзейнічае і ў Беларусі, і па-за яе межамі.

**– Вы казалі, што даводзілася ўпершыню стукаць у дзверы мясцовых улад, іншых дзяржаўных структур. З цягам часу прасцей стала дамаўляцца?**

**Алена**: – Што тычыцца «Бацькаўшчыны», пры Міністэрстве замежных спраў створаны каардынацыйны савет беларусаў замежжа. Мы ўваходзім у яго склад, выступаем як грамадская экспертная арганізацыя. Прапаноўваем ініцыятывы, яны выслухоўваюцца, разглядаюцца, некаторыя прымаюцца. Тэрмін «беларусы замежжа», напрыклад, які выкарыстоўваецца ў Законе аб беларусах замежжа (прыняты ў 2014 годзе), прапанавалі мы. Але закон носіць у асноўным больш дэкларатыўны характар, і на апошнім З'ездзе беларусаў свету мы прапанавалі ставіць дасягальныя стратэгічныя мэты на 10, 20 гадоў. Зараз існуе падпраграма «Беларусы ў свеце», якая ўваходзіць у праграму «Культура Беларусі», разлічаную да 2020 года. На з'ездзе беларусы замежжа крытыкавалі яе менавіта за «цымбальна-саламяны» характар. Праграма сёння працуе на задавальненне попыту. Звярнуліся беларусы, напрыклад, з Латвіі: дайце нам падручнікі. Даём. Перадаём, каму патрэбны, і цымбалы. Якую мэту ставім – каб усе беларусы свету гралі на цымбалах? З беларусамі замежжа можна і трэба супрацоўнічаць не толькі ў сферы культуры, а ў розных: эканамічнай, ІТ, наладжванні інтэлектуальных абменаў…

**– Заканчваецца год. Як водзіцца, усе складаюць планы на будучы. Што наперадзе ў «Будзьма беларусамі!» і «Бацькаўшчыны»?**

**Ніна**: – Дакладна будзем і далей праводзіць мерапрыемствы ў рэгіёнах, дзе мы ўздымаем розныя сацыяльныя, культурніцкія тэмы, што цікавяць жыхароў. Будзем дапамагаць рэалізоўваць мясцовыя ініцыятывы, развіваць анлайн-праекты.

**Алена**: – У наступным годзе, спадзяёмся, атрымаецца правесці восьмы Фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацый «Аднак». Будзем далей працягваць выданне кніг з серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны». Усяго выйшла ўжо 36 кніг, і кожная з іх – асобнае даследаванне па дыяспары ў розных краінах. Увогуле, кепская прыкмета – загадваць. Лепш мы пасля раскажам, што зрабілі.

**Кацярына МЯДЗВЕДСКАЯ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Скоро суд над Александром Пучковым

*Бывшего начальника минского Городского клинического патологоанатомического бюро **будут судить** за получение взяток на общую сумму более 390 тысяч рублей.*

Следственный комитет вчера сообщил, что свою вину Пучков признал полностью. В ходе следствия доход, полученный преступным путем, в полном объеме уплачен в республиканский бюджет. В настоящее время расследование уголовного дела завершено, материалы переданы прокурору для направления в суд. Пучкову инкриминируется получение взятки в крупном и особо крупном размерах и грозит до 15 лет лишения свободы.



По данным следствия, патологоанатом на протяжении 16 лет, с января 2002 года, получал взятки от представителей фирм и предпринимателей *«за возможность поставлять патологоанатомическому бюро производимую ими продукцию (гробы, деревянные кресты и прочее) для последующей реализации через магазин ритуальных принадлежностей учреждения либо оказывать услуги по перевозке тел умерших к местам захоронения. Размер взятки ежемесячно составлял около десяти процентов от стоимости товара, поставленного в адрес магазина бюро. В случае с предпринимательской деятельностью по перевозке тел действовал тариф – 100 долларов за один автомобиль».*

Александр Пучков был задержан с поличным во время получения взятки на рабочем месте в июне 2018 года. Тогда же КГБ страны объявил на всю страну о задержании ряда высокопоставленных чиновников от медицины и главврачей, которые обвинялись в коррупции при закупке медоборудования и лекарств. Но дело Александра Пучкова к этим задержаниям отношения не имело. Когда будут закончены расследования по так называемому «делу врачей» и начнутся суды, не известно.

К слову, новым руководителем столичного патологоанатомического бюро назначена Екатерина Ковалевич. Александр Пучков возглавлял бюро 22 года.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

СЛЫШАЛИ?

# Лев Сапега встанет в центре «сковородки»

Немного юмора: сковородкой жители Слонима называют не что иное, как площадь Ленина. Происхождение названия объяснить не берусь, да это и не важно. Важно, что там в следующем году ко Дню письменности появится памятник канцлеру Великого Княжества Литовского Льву Сапеге. Каков затейливый узор истории, а?

Речь о канцлере в бронзе в этом райцентре ведется уже 10 лет. Эскиз давно создал народный художник Беларуси Иван Миско. Но все портил материальный вопрос – хотя только ли он? Так или иначе финансирования не было. Скульптор даже соглашался работать без гонорара, но это всего 25 процентов стоимости памятника. А остальное? Говорят, в банке открыли счет для сбора денег, но на нем оказались сущие гроши. Не торопились отдавать канцлеру свою трудовую копейку горожане. А банкиры и подавно не открывали мошну.

Наконец райисполком изыскал государственные средства для памятника магнату. И то верно: Сапега тоже был немалой властью в Слониме – старостой в этом городе. Не будем забывать о колоссальных богатствах, которые он имел с этих земель.

Но уже существующий эскиз авторства Миско почему-то отложили в сторону. Райисполком решил объявить настоящий конкурс. Теперь только так. Может, оно и правильно, меньше досужих разговоров. Пришло на конкурс девять эскизных проектов. Однако победителем комиссия все равно признала работу Ивана Миско (в соавторстве с минскими скульпторами В.Пининым и С.Логвиным). Их канцлер Сапега – 3 метра 30 сантиметров – будет стоять на постаменте с Уставом ВКЛ в левой руке и с булавой в правой. Солидно. Народный художник Иван Миско – почетный гражданин Слонима, причем получил это звание первым. Думается, комиссия этот факт тоже учитывала, выбирая победителя конкурса. С другой стороны, а как же положение об анонимности? Или это простое, но очень счастливое совпадение?




Но не будем о бренном. Главное – памятник канцлеру ВКЛ Льву Сапеге планируется открыть 1 сентября 2019 года во время республиканского праздника белорусской письменности и печати.

Забегая вперед, скажу: в Поставах прямо сейчас можно участвовать в конкурсе эскизных проектов на памятник еще одному видному политическому и общественному деятелю ВКЛ – Антонио Тизенгаузу. А в столице, напомню, к весне появится памятник первому минскому князю Глебу Менскому. Наша древняя история наконец по-настоящему забронзовеет. И все это, честно говоря, очень радует.

**Елена МОЛОЧКО.**

